# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.





№ 10 (109) Vilnia, 15 Vieraśnia 1937 h. Hod IX.

UVAHA! NOVAŚĆ! UVAHA!

# Cennyja premii dla akuratnych padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi"!

**Niabyvałaja akazija zusim darma vyjhrać hadzińnik, sekatar, nažy da ščapleńnia dreŭ, cennyja knižki i inš. rečy.**

Administracyja „Šlachu Moładzi" pastanaviła sioleta vosieńniu raździalić miž akuratnych svaich padpiščykaŭ premii za ichniuju dbajnaść. Premii buduć padzieleny darohaj losavańnia, da jakoha buduć dapuščany tolki tyja padpiščyki, katoryja apłacili, abo jašče apłaciać padpisku na „Šlach Moładzi" za hety sioletni 1937 h. (usiaho tolki dva złotyja).

## Špis hałaŭniejšych premijaŭ:

1. Dobry hadzińnik na ruku.
2. Sekatar (nožnicy da abrazańnia halinak dreŭ).
3. 2 nažy da ščapleńnia dreŭ.
4. „Гісторыя (Беларускай) Крыўскай Кнігі" В. Ластоўскага, якая ў прадажы каштуе 10 зл.
5. „Пчолы" — кніга аб пчалаводзтве Пачопкі.
6. „Гісторыя Беларускай Літаратуры" М. Гарэцкага.
7. „Географія Беларусі" Смоліча.
8. „Хрыстаматыя Беларускай літаратуры" Дварчаніна.
9. Hramafonnaja plitka z biełaruskim narodnym tancam «Lavonicha» i z pieśniaj „A u lesie, lesie" ŭ vykanańni słaŭnaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha.
10. Partret biełaruskaha paeta M. Bahdanoviča.

**Dyk chto choča być u liku dapuščanych da losavańnia premijaŭ, niachaj zaraz pastarajecca apłacić padpisku. Chto-ž padpiski nie apłacić, toj nia budzie pryjmać udziełu ŭ losavańni i tamu vysyłka „Šlachu Moładzi" budzie strymana!**

Treba pamiatać, što svaja presa, svaje časapisy, najlepš baroniać i infarmujuć. Tamu, biełarusy pavinny padtrymlivać svaju presu i pašyrać jaje, zdabyvajučy novych padpiščykaŭ. Biełaruskaja moładź pavinna pieradusim vypisvać i pašyrać „ŠLACH MOŁADZI"!

*Administracyja „Šlachu Moładzi."*

// Шлях Моладзі
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, 15 Верасьня 1937 г. № 10 (109).

# НАША НЕСПАДЗЕЎКА

## „Шлях Моладзі“ будзе выходзіць два разы ў месяц.

Ужо мінула тры месяцы, як мы абяцалі нашым падпішчыкам неспадзеўку. Прызнаемся адразу і шчыра, што хоць прыгатаўляліся мы да гэтага больш як тры месяцы, датрымаць нам свайго абяцаньня цяжка. Але выданы падпішчыкам вэксаль хочам выкупіць і сказанае слова датрымаць. — **Неспадзеўкай гэтай будзе тое: што ад месяца верасьня 1937 году пачынаем выдаваць «ШЛЯХ МОЛАДЗІ» ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.** Як доўга зможам гэта рабіць, цяжка сказаць, бо разьвіцьцё часапісу залежыць ня толькі ад выдавецтва і рэдакцыі, але таксама і ад *акуратнасьці падпішчыкаў.* Дзеля гэтага павінны быць *супольныя натугі.*

Нашым намерам ёсьць ня толькі выдаваць „Шлях Моладзі“ два разы ў месяц, але нават і часьцей. Нашым намерам ёсьць так-жа ня толькі выдаваць яго аб'ёмам 16-ці, але — 24 ма бачынамі, з спэцыяльным аддзелам самаасьветы; і каб „Шлях Моладзі“ быў ня толькі *жывой цікавай газэткай,* але каб хоць да некаторай меры *замяняў родную школу і памагаў моладзі здабываць асьвету.*

Далёкія гэта бязумоўна пляны і мэты, але да іх *будзем ісьці і ўсімі сіламі будзем старацца іх асягнуць. І асягнем іх напэўна, калі да гэтага прыложыць руку кожны малады Беларус.* Калі ўся моладзь будзе старацца выпісваць „Шлях Моладзі“, акуратна за яго плаціць падпіску і пашыраць, здабываючы новых падпішчыкаў. Рабіць гэта, пры добрай ахвоце, можа кожны. Бо падпіска на „Шлях Моладзі“ ня высокая, і ад месяца верасьня 1937 году будзе каштаваць **усяго 2 зл. і 50 гр. на цэлы год.** Пры тым кожны год, сярод акуратных падпішчыкаў „Шляху Мол.“ будуць разлёсаваныя **цэнныя прэміі.** Старыя падпішчыкі, якія аплацілі падпіску за цэлы 1937 г., ня гледзячы на тое што часапіс будзе ім прыходзіць часьцей, ад **дадатковае за гэта платы звальняюцца.** Апрача таго для ўсіх, хто будзе аплачваць належнасьць за „Шл. Мол.“ за **1938 год** да канца 1937 г. — **падпіска за цэлы год будзе каштаваць толькі 2 зл.**

З прыемнасьцю можам адцеміць, што падпіска на „Шлях Мол.“ сёлета, у параўнаньні з мін. годам, павялічылася больш як у два разы, аднак гэта яшчэ ня можа поўнасьцю пакрыць усіх расходаў выдаваньня „Шляху Моладзі“ і большасьць цяжару далей нясуць [тры ]друкары.

Дзеля гэтага яшчэ раз просім усіх **аплачваць падпіску як найакуратней, пашыраць «Шлях Моладзі» сярод сваіх знаёмых, прысылаць адрысы для высылкі пробных нумароў, а тых, што могуць пісаць—карэспандэнцыі, артыкулы і іншыя матарыялы.**

**Супольнымі сіламі, супольнымі натугамі будзем працаваць для дабра Беларускага Народу, для яго поўнага адраджэньня і сьвятлейшай будучыні...** *ВЫДАВЕЦТВА.*

# Беларуская праваслаўная моладзь і Царква

Беларуская праваслаўная моладзь, бяручы агулам, супроць Царквы і Яе Хрыстовае навукі нэгатыўна і варожа не настроена; нэгатыўна настроена моладзь фактычна толькі да духавенства і ягонай, сказаў-бы, клерыкальна-буржуазнай палітыкі. Гэтая супярэчнасьць прыймае характар клясавай варожасьці і расшыраецца да такіх разьмераў, што ў вачох духавенства моладзь становіцца бязбожнай і варожай Царкве, а ў вачох моладзі — Царква, гэта выдумка духавенства дзеля ўтрыманьня народу ў паслушнасьці сільнейшым і пануючым гэтага сьвету.

У сапраўднасьці мыляецца як адна старана — кроўна чужое, вельмі часта, нашай моладзі духавенства, так і другая — беларуская моладзь.

Разглядаючы гэнае ненармальнае зьявішча паўстае пытаньне: якая глыбейшая прычына гэткай варожасьці моладзі да духавенства і што трэба зрабіць, каб гэную варожасьць замяніць натуральнай прыязьняй?

Вось-жа першай прычынай гэтай варожасьці ёсьць тое, што ў царкоўным жыцьці сярод беларускага насельніцтва духавенства падтрымлівае, бадай, усё чужое і не дапускае беларускага. Відаць гэта як з пропаведзяў і з навучаньня рэлігіі ў школах, а нават апошнім часам і ў літургіі.

Дык дзеля таго, каб варожасьць беларускай моладзі да духавенства замяніць натуральнай прыязьняй — трэба наўперад паставіць у нас царкоўную справу на натуральны грунт; трэба яе чужацкі воблік замяніць воблікам беларускім і перадаць кіраўніцтва царкоўна-рэлігійным жыцьцём сярод беларусаў духавенству зродненаму крывёй і духам з беларускім народам.

Рэлігія гэта ня „опіюм для народа“, але духовая патрэба кожнага чалавека. І беларуская моладзь, асабліва маладая беларуская інтэлігенцыя на справу рэлігійную, на справу Праваслаўнае Царквы павінна зьвярнуць увагу ня з гледзішча партыйнага доктрынэрства, але з гледзішча агульна народнага і яго найгалаўнейшых патрэбаў.

Выступаць супроць прыроднага права, супроць рэлігіі — гэта бязглузьдзе. Гэта роўназначна з тым, што йсьці супроць самога сябе, сабе ілгаць, самога сябе ашуківаць, самога сябе гвалціць, зьдзекавацца і г. д.

Ня ілжэмо-ж тады самі сабе, што мы будучы няпрыхільна настроены да чужога нам кроўна і духова клеру, зьяўляемся бязбожнікамі і антыцаркоўнікамі, тады калі фактычна трымаемся царкоўна-рэлігійнай традыцыі, фармальна да Царквы належым і гэтай прыналежнасьцяй даражым.

Пры гэтым трэба так-жа сьцьвердзіць незапярэчаны факт, што царкоўна-рэлігійны інстынкт, калі ня сьведама, дык падсьведама і калі не фармальна, дык фактычна аб'ядывае ўсіх праваслаўных беларусаў. І дзеля гэтага беларуская моладзь ня можа йсьці шляхам разбураньня царкоўна-рэлігійнага жыцьця, а павінна йсьці па лініі народнага аб'яднаньня, а гэтым самым і шляхам царкоўна-рэлігійнага будаўніцтва ў народзе.

Беларуская моладзь на царкоўным пагосьце павінна заняць месца актыўных перадавікоў. — Даволі ўжо гуляць у „бязбож-

ніцтва!" Трэба ўзяцца за позытыўную працу, як дзеля пазнаньня Бога — Праўды, Красы, Справядлівасьці, так дзеля затамаваньня крыніцаў, з якіх выплываў і выплывае чужацкі дух.

Словам, адным з найгалаўнейшых заданьняў беларускае праваслаўнае моладзі ёсьць — праца дзеля зьмены ненатуральнага чужацкага вобліку Царквы сярод Беларускага Народу на натуральны воблік беларускі. На гэтым шляху моладзь павінна спаткацца з родным духавенствам і даканаць гэта, а адначасна дзеля дабра народна-рэлігійнае справы трэба ўнормалізаваць суадносіны між моладзяй і духавенствам.

*Мірон Астапчык.*

*Максім Танк*

## КАЛІ НА ПОЛІ

Калі на полі глуха, пуста
і ночы выбеляць траву,
разсыплюць хмары з сініх хустак
дажджоў сьцюдзёную жарству;

і калі неба пашарэе,
васеньні вострыя сухавей
ў імгле сьпявае адзісею
з крылатым табарам гусей, —

люблю стаяць пад цяглай соснай,
пад мачтай быццам залатой,
і плыць туды, дзе дрэмлюць вёсны, —
плыве і Край ўвесь за табой.

7.IX.37

*Міхась Машара*

* * *

Цёмнаю грывай на ўзгорках,
дрэміць над возерам гай.
Выплыла першая зорка,
дзень пражыты — бывай!

Вечар сівой палатнінай
тчэ туманы над вадой.
Нізка спусьціўшы чупрыны,
шэпчуцца ліпы з травой.

Ціха...
ні песьні, ні гукаў...
сад мой заснуўшы маўчыць.
Хочыцца выцягнуць рукі
і ціха маліцца начы.

Сэрцам маліцца да зораў,
сны каб саткалі сьвятлей,
і за вялікае гора,
бедных, бяздомных людзей.

Вісяты. Ліпень 37 г.

# Da vytokaŭ biełaruskaha adradžeńnia

(Praciah, hl. „Šlach Moładzi" № 9 (108).

## M. Babroŭski.

Michaś Babroŭski radziŭsia 8.XI. 1784 h. u Vulcy, na Padlašy (daŭn. Padlaskaje vaj), dzie jaho baćka byŭ unijackim probarščam. Vučyŭsia śpiarša ŭ Klaščelach, pav. Bielski, u unijackaj parafijalnaj škole, tady ŭ Drahičynie ŭ Pijaraŭ (1797—1803), dalej u dziaržaŭnaj pruskaj himnazii ŭ Biełastoku (1803—1806). Pa skančeńni himnazii, nia mohučy z niedastačy srodkaŭ pajści na vyšejšyja navuki, M. Babroŭski davaŭ pryvatna lekcyi i sam vučyŭsia pryvatna.

U 1808 h. dastaŭsia ŭ Hałoŭnuju Seminaryju pry Vilenskim Universytecie, jakuju skončyŭ u 1812 h. z tytułam mahistra teolohii. Tam družyŭ jon z sakratarom universytetu, litoŭcam Kaz. Kontrymam, znaŭcam uschodnich movaŭ. U 1813-14 h. studjavaŭ prava, hebrajski i italijanskija jazyki i atrymaŭ tytuł mahistra prava. Vakacyi pravodziŭ na Padlašy, adviedvajučy časta manastyr u Supraśli i robiačy tam navukovyja razviedki. I ŭžo tady natrapiŭ jon na ślady słavianskaj (biełaruskaj) Zabłudaŭskaj drukarni, jakuju ŭ 1568 h. załažyŭ Ryhor Chadkievič, a tak-ža na śłady maskoŭskich drukaroŭ Ivana Fiodorova i Cimafieja Mścisłaŭca (biełarusaŭ), jakija, vyhnanyja z Maskvy ŭ 1564 h., znajšli prypynišča ŭ Zabłudavie i tut vydrukavali niekalki siańnia ŭžo duža redkich słavianskich knižak. Babroŭski apisaŭ losy hetych drukaroŭ i ich druki zabłudaŭskija i inšyja.

Ad 1814 da 1817 h. M. Babroŭski ŭžo dacentam i vykładaje ŭ Vilenskim universytecie śv. Pisańnie, teolohiju maralnuju i palityčnyja navuki. U 1815 h. paśviačany na unijackaha śviaščeńnika. U 1816 h. vykładaje tak-ža i ŭ Hałoŭnaj Seminaryi i byŭ naznačany siabram unijackaj mitrapalickaj kansystoryi ŭ Vilni. U 1817 h. naznačajecca kanonikam Bieraściejskim. Svaimi zdolnaściami źviarnuŭ jon na siabie ŭvahu universytetu i byŭ vysłany zahranicu, kab tam studjavaŭ śv. Pisańnie, a tak-ža kab studjavaŭ movy ŭschodnija ahułam i movy słavianskija, da jakich mieŭ vialiki nachił. Studvjam hetym Babroŭski addavaŭsia zahranicaj piać hadoŭ (1817—1822).

Zahranicaj pabyvaŭ uva ŭsich bolšych kulturnych centrach i zapaznaŭsia z usimi słaŭnymi tady vučonymi filolohami-ŭschodnikami. Da 1819 h. byŭ u Vienie, dzie zapaznaŭsia z vučonymi słavistami: Kopitarem, Dobroŭskim, Hankaj i Jungmanam (čechi). U 1819 h. pačaŭ padarož pa słavianskich ziemlach. Adviedaŭ Čechiju, Maraviju, Krainu, Chorvacyju. Pracavaŭ u biblijatekach: u Prazie, Velehradzie, Lublanie, Raguzie, Dubroŭniku. Paśla pierajechaŭ u Italiju. Adviedaŭ: Venecyju, Boloniju, Florencyju i Rym, dzie ŭ Vatykanskaj biblijatecy, karystajučy z vietlivaści vučonaha kardynała Angelo Mai, apracavaŭ śpis najstarejšych słavianskich rukapisaŭ i drukaŭ. Hety śpis dyrektar Vatykanskaj biblijateki toj-ža kard. Mai źmiaściŭ u svaim vydaviectvie: Nova Collectio Veterum Patrum t. V, pad nazovam: „Codices Slavici Bibliothecae Vaticanae", horača za hetu pracu dziakujučy Babroŭskamu.

U vyniku svaich studyjaŭ M. Babroŭski staŭsia słaŭnym vučonym biblistym i orjentalistym. Znaŭ movy: hreckuju, łacinskuju, hebrajskuju, chaldejskuju, syryjskuju i arabskuju, nie havoračy ŭžo ab hruntoŭnym znańni movaŭ žyvych:

francuskaj, niamieckaj, italijanskaj, anhielskaj. Byŭ tak-ža vučonym słavistam ahułam i vialikim znaŭcam movy biełaruskaj i stara-słavianskaj.

Viarnuŭšysia ŭ Vilniu, M. Babroŭski byŭ naznačany tut nadzvyčajnym prafesaram śv. Pisańnia. Jak navukovaja siła, byŭ adnym z vydatnych. Aprača prafesury, časta havaryŭ kazańni pa vilenskich cerkvach-kaściołach, da čaho mieŭ vialikuju achvotu i talent.



M. Babroŭski.

5.VII.1823 h. M. Babroŭski atrymaŭ u Vilenskim Universytecie daktarat teolohii i byŭ naznačany ŭžo zvyčajnym prafesaram hetaha-ž universytetu. Budučy prafesaram, M. B. kiravaŭ biełaruskim hurtkom i žbiraŭ roznyja bieł. matarjały.

U 1824 h. ŭ navukovym razhonie Babroŭskaha nastupaje pieraryŭ: jon byŭ pazbaŭleny prafesury. U hetym časie byli viedamyja zamieški studenckaj moładzi (filomaty i filarety). Da spravy moładzi byli zamiešanyja i papularnyja siarod jaje i joj spryjajučyja prafesary — z palakoŭ Lelevel, Gołuchoŭski i inš., a z biełarusaŭ — M. Babroŭski, Daniłovič i inš.

M. Babroŭski byŭ biełarusam. Jon krepka byŭ źviazany z biełaruskaj narodnaściaj, vystupaŭ praciŭ łacinki a stajaŭ za kirylicu. Spryjaŭ filareckaj i filomackaj moładzi, jakaja ŭ značnaj častcy była biełaruskaj, z unijataŭ i jakaja ahułam była z biełaruskaj spolščanaj šlachty, znała biełaruskuju movu i zajmałasia studyjami nad minuŭščynaj i movaj biełaruskaha narodu, čaho sam M. B. byŭ vydatnym vučonym daśledčykam.

Tut treba adciemić, što z radoŭ filomataŭ i filaretaŭ vyjšli: viedamy biełaruski paet, siabra Adama Mickieviča, Jan Čečat, rodam z Viciebščyny (1797—1847), i dasiul zusim badaj niaviedamy biełaruski dziejač i paet Francišak Savič, jakija za svaju dziejnaść na biełaruskaj adradženskaj nivie ciarpieli na Sybiry.

U hetym-ža časie pačaŭ pracavać na biełaruskaj nivie piśmieńnik i ŭčaśnik polskaha paŭstańnia ŭ 1831 h Aleksandar Rypinski, šlachcic z Dzisienščyny.

***

Pazbaŭleny universyteckaj katedry, M. Babroŭski byŭ vysłany ŭ manastyr u Žyrovicy kala Słonima i trymany byŭ tam pad nadzoram. U 1826 h. carskaja łaska viarnuła adnak jaho jznoŭ na vilenskuju katedru.

U 1832 h. Vilenski Universytet byŭ začynieny. Astałasia Hałoŭnaja Seminaryja, kudy M. B. i pierajšoŭ vučyć. Ale chutka, u 1833 h. i heta Seminaryja była skasavana i Babroŭski ŭ sile vieku, majučy 49 h., byŭ prymušany z prafesuraj razstacca nazaŭsiody. Duchoŭnyja ŭłady naznačyli jaho na... probarščа ŭ Šeraševa (Pružanski pav.), dzie jon i astaŭsia da kanca žyćcia, pryniaŭšy ŭ 1837 h. pravasłaŭje.

Da svaich parachvijan Babroŭski byŭ dastupny i dobry što niadzieli i śviata havaryŭ kazańni zaŭsiody pabiełarusku.

Pamior Michał Babroŭski ad chalery 21.IX.1848, majučy 64 hady Cełaje žyćcio ad moładaści da śmierci byŭ jon całkom zrossysia z losam biełaruskaha narodu.

Bahatuju i cennuju svaju biblijateku Babroŭski pradaŭ sam, budučy ŭ ciažkim matarjalnym pałažeńni, a pracy ŭ rukapisach, niekatoryja hatovyja da druku i ŭsiakija inšyja papiery častkova byli paraściahvany znajomymi susiedźmi i pryjacielami, a častkova byli spakavany ŭ miašok i adasłanyja pravasłaŭnamu jepiskapu J. Siemašcy, jaki niščačy unijackija biełaruskija zabytki, nadta mahčyma, što źniščyŭ i hetyja. U vyniku ŭsiaho hetaha, pracy M. B, asabliva niedrukavanyja i datyčačyja biełarusaviedy, abo pahinuli, abo paraskidany pa roznych biblijatekach krajovych i zahraničnych.

Miž inšym, Babroŭskamu prypisvajuć aŭtorstva biełaruskaj katechizmoŭki, vydanaj u 1835 h. p. n.: *„Krótkie zebranie nauki chrześcjańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego“*.

***

M Babroŭski, jak raniej my ŭžo pisali, taksama jak i Mahnušeŭski z Paŭlukom Bachrymam, pryčyniŭsia da vytokaŭ i pačatkaŭ biełaruskaha nacyjanalaaha adradžeńnia. Paśla ich na biełaruskaj adradženskaj nivie źjaŭlajecca: słaŭny pavadyr paŭstańnia ŭ našym kraju ŭ 1863 h. Kastuś Kalinoŭski, a dalej Ihnat Hrynievicki, Adam Hurynovič, Franciš Bahušević, Praf. Branisłaŭ Epimach Šypiła i cełaja plejada inšych viernych synoŭ Biełarusi, jakija budzili biełaruski narod da pracy i zmahańnia za lepšuju dolu i volu.. Praca ich nie pajšła na marna. Biełaruski narod ažyŭ, zbudziŭsia z viekavoha snu i šparkimi krokami jdzie da lepšaj, śviatlejšaj budučyni. Jaho nichto ŭžo nie ŭsanić, nichto nia złomić — **Jon budzie žyć!..**

(Kaniec). *jn.*

# Kali budzie hatovy pamiatnik A. Levickamu

Pryhatavaŭčyja raboty da budovy pamiatnika našamu słaŭnamu paetu i piśmieńniku Antonu Levickamu — Jadvihinu Š., jak my pisali, daŭno ŭžo byli raspačaty. Ciapier-ža adbyvajucca raboty kamieniarskija. Pamiatnik vykonvaje adna z najstarejšych mastackich reźbiarska-kamianiarskich firmaŭ u Vilni: A. Baranoŭskaja. Hatovy pamiatnik budzie i pastaŭleny na mahile paetv na Rossach da 15 kastryčnika siolєta Budzie jon vykanany z miascovaha šeraha hranitu ŭ formie obeliska, vyšynioj da 2 z pałavinaju metraŭ.

Dalej na pamiatnik Antonu Lavickamu ŭ Vilni achviaravali: ks. K. B. 1,50 zł., Kiłdanovič Zyhm. 50 hr., V. S—man z Łatvii 5 zł., St. Narušević 50 hr., M. i V. Vojtenki 1 zł., A. Š. 1 zł., J. Paźniak 2 zł., V. Astapka 1 zł., T. Ivanoŭski 50 hr., Vł. Bryleŭski 1 zł., J. D—ki 1 zł.

Sabranych dasiul hrošaŭ budzie adnak jašče mała na pakryćcio ŭsich koštaŭ budovy pamiatnika i dzieła hetaha zmušany my jašče raz źviarnucca z zaklikam da ŭsich biełarusaŭ: chto žadaje, kab mahiła słaŭnaha biełaruskaha piśmieńnika i dziejača Antona Levickaha mieła naležny vyhlad, niachaj nieadkładna złožyć na hetu metu achviaru. Chto kolki moža, bo kožnaja, choć-by i małaja, achviara budzie pomačču i maje vialikaje hramadzkaje značeńnie. Składki prosim słać na naša redakcyjnaje konta, z zaznačeńnie „Na pamiatnik Jadvihinu Š.“

Usim achviaradaŭcam ščyruju padziaku składaje

**Red. Kalehija „Šlachu Moładzi“.**

## Jašče ab braterstvie

„Młoda Polska"—orhan „Związku Młodej Polski", u № 2 za vierasień 1937 h., dajučy ahlad № 7 (106) „Šlachu Moładzi", miž inšym, piša:

...„Chočam zapeŭnić redakcyju „Šlachu Moładzi", što „Związek Młodej Polski", katory abjednaje całaje maładoje pakaleńnie, adnosna slavianskich narodaŭ u Polščy haduje braterskija pačućci. Nia jość heta tolki pačućci: pavodle nas slavianskija mienšaści majuć roŭnyja palityčnyja pravy ŭ Polščy, jak i Palaki i roŭnuju adkaznaść"...

...„Polšč budzie krajem spraviadlivaści. Da ukrainskaha i biełaruskaha narodu zvaročvajemsia nie pa pomač, a pa supolnaje dziejańnie ŭ supolnaj spravie i adkaznaści"...

Usio heta sapraŭdy vielmi pryhožyja słovy. Braterstva, spraviadlivaść — dobryja abjavy. Ale dzie, panovie, vašy čyny ŭ hetym kirunku? Čamu „Młoda Polska", pišučy ab braterstvie i spraviadlivaści, ničoha nia ŭspomniła choć-by ab patrebie dla biełarusaŭ liceju u ich rodnaj movie, na miesca źlikvidavanych starejšych klasaŭ u biełaruskaj himnazii ŭ Vilni? Liceju henaha damahałasia ŭsio biełaruskaje hramadzianstva, ab im my pisali jakraz u ŭspomnienym № 7 „Šl. Moł.", i jaho školnyja ŭłady dasiul nie adčynili. Dy što „Młoda Polska" skaža ab prahramnaj pramovie dr. J. Kurkoŭskaha na źjeździe OZN u Vilni, katoraha šefam jość toj-ža pałk. Koc — kiraŭnik „Związku Młodej Polski?" — Dr. Kurkoŭski, jakoha horača vitali ŭsie prysutnyja na źjeździe, vyrazna damahaŭsia, kab: „ułady haspadarstviennyja ačyścilisia ad elementaŭ niapolskich", kab „ziamlu pry pravodžańni ziamielnaj reformy davać vyklučna asobam polskaj nacyjanalnaści"... „Heta jość—kazaŭ jon—padstavy, katoryja vypłyvajuć z prahramy pałk. Koca i adnačasna najbolš lažać nam na sercy"...

„Młoda Polska" adznačaje tak-ža, što my byccam „vielmi chałodnyja" ŭ spravie polska-biełaruskich adnosinaŭ. Na heta adkazam moža być № 8 i 9 „Šlachu Moładzi" z artykułam: „Z błudnaha koła polska-biełaruskich adnosinaŭ". Nia našaja-ž chiba vina budzie, što pałavina hetaha artykuła da čytača nie dajšła.

## Paśla sialanskaha strajku

Jak my ŭžo pisali ŭ № 9 „Šl. Moł.", sioleta ŭ paŭdzionnych vajavodztvach Polščy „Stronnictwo Ludowe" ad 15 da 25 žniŭnia ładziła demanstracyjny sialanski strajk, katory mieŭ vialikija raźmiery. Paśla strajku premjer uradu hien. Słavoj-Składkoŭski abvieściŭ kamunikat, z jakoha vidać, što sialanie ładzili strajk dziela padtrymańnia svaich palityčnych damahańniaŭ. Pry tym zdaralisia byccam vypadki, što sialanie siłaj nie dapuskali davozu praduktaŭ u miesty, a navat atakavali addziely palicyi. U vyniku hetych atakaŭ **41 sielanin byŭ zabity i 34 ranienyja.** Aprača taho šmat jość aryštavanych i padanych pad sud. Sialanski strajk asabliva napužaŭ abšarnikaŭ i niekatoryja ŭžo dakazvajuć, što arhanizatarami strajku byli kamunisty.

„**Wici**" — orhan „Związku Młodzieży Wiejskiej" (maładych ludoŭcaŭ) zakidy henyja rašuča adkidaje i ab pryčynach strajku piša, miž inšym, hetak:

„Damahalisia sialanie i damahajucca. Vynosili rezalucyi, pisali prośby, vysyłali telehramy, uručali memoryjały. Čakali adkazu —buduč y ŭ hetym čakańni, jak redka chto ŭ Polščy, ciarplivyja. Adkaz nia prychodziŭ i nia prychodzić. ...Pastanavili zademanstravać. ...Formu demanstracyi vybrali sialanie lehalnuju—ścvierdziŭ heta tak-ža Haradzki Sud u Šamotułach, katory sudziačy ŭ pryśpiešanym paradku 15 ludoŭcaŭ za strajkovuju akcyju, u matyvach prysudu skazaŭ, što strajkavač i nahavorvač da strajku można. Nia można tolki zmušać da strajku hroźbaj".

Strajkujučyja sialanie damahalisia miž inš., źmieny vybarnaj ardynacyi i novych vybaraŭ u Sojm i Senat, dy cely rad inšych hramadzkich i haspadarčych reformaŭ. *j. n.*

# Vajna na Dalokim Uschodzie razharajecca

Japonska-kitajskaja vajna z kožnym dniom što-raz bolš uzmahajecca i pavialičvajecca.

Japoncy, katoryja jašče nia tak daŭno dumali, što niekalkima mocnymi i mietkimi ŭdarami zmusiać Kitaj da pasłušnaści, paspuskali nasy, napatkaŭšy silnyja adboi i adčuvajučy niazvyčajnuju zaŭziataść Kitajcaŭ. Adna z japonskich hazet vyrazna navat piša, što vajna moža praciahnucca šmat hadoŭ i budzie vielmi ciažkoj probaj dla Japonii. I dziela hetaha Japonija pačała pryhatavańni da vajny na daŭžejšy čas. Pry tym apirajecca jana hałoŭnym čynam na Niamieččynie, z katoraj jošć u kantakcie nia tolki ŭ spravach haspadarčych, ale i vajskovych.

Kitaj, vializarny i stary kraj, z 450 milijonami žycharoŭ, ad niapamiatnych časoŭ viadzie baraćbu z roznymi najezdnikami. Byvaŭ užo jon nia raz i pad čužoj akupacyjaj, ale zaŭsiody jaje paśla škidaŭ i niaprošanych vaładaroŭ vyhaniaŭ. Apošnimi časami asabliva mocna nadajedajuć Kitajcam Japoncy, jakija ŭsimi siłami, i ŭsialakimi sposabami dy z roznych pryčyn lezuć u Kitaj i chočuć nia tolki zaviaści tam svaje paradki, jak časta havorać, ale pieradusim ciahnuć adtul čužoje dabro. Japoncy, biazumoŭna, lepš sarhanizavanyja i ŭzbrojenyja, ale ich kolkasna daloka mienš, čymsia Kitajcaŭ, bo ŭsiaho kala 70 milijonaŭ.

Ciapierašniaja vajna, raspačataja Japoncami, dla Kitaju vielmi nie na ruku i ŭ błahi čas, bo kraj hety sioleta jakraz pieražyvaŭ i pieražyvaje vialiki hoład, a ŭ dabavak da hetaha, niadaŭna nad Kitajem praniasłasia strašennaja bura—tajfun, jaki prynios vializarnyja straty — źniščyŭ mnoha budynkaŭ, pasievaŭ, i ŭ času jaho zhinuła bolš 1000 asob.

Nia hledziačy na ŭsie niaščaści, Kitajcy dajuć silny adpor Japoncam, šmat dzie ŭžo pieramahajučy. Kitajcy, jak nikoli moža, zrazumieli ciažar čužoha jarma i z krykam: „Ša-Ša", što značyć: bi, zabivaj — viaduć zaŭziatuju baraćbu za kožnuju piadziu ziamli.



Maršał Čan-Kaj-Sek

Dziela taho, što kitajskaja armija była dasiul nia nadta dobra ŭzbrojena, dyk usie natuhi Kitajcaŭ škiravany ciapier na ŭzbrajeńnie i ahulna-narodnaje abjednańnie. U rady vajakaŭ stanoviacca nia tolki mužčyny, ale i žančyny. Hałoŭnym pavadyrom Kitajcaŭ i kamandzieram kitajskaj armii jošć słaŭny maršał Čan-Kaj-Šek. Cikava adciemić, što vielmi pavažnuju rol u Kitai adyhryvaje jahonaja žonka, katoraja navat pryjmaje ŭčaście ŭ vajennych naradach. Žančyna heta nia raz užo ŭsłaviłasia svajej pracaj dla Kitaju i ciapier umieła i naležna pracuje.

Na mory ŭ Kitajcaŭ pajavilisia „žyvyja torpedy". Hetkaja torpeda vyhladaje na vializarny snarad, unutry katoraha siadzić čałaviek i paśla vystrału, kiruje im tak, kab papaści ŭ niepryjacielski karabiel. Jasna, pry razryvie torpedy, u pieršuju čarhu hinie toj chto ŭ joj siadzić. Da takich „žyvych torpedaŭ", Kitajcy byccam majuć masu achvotnikaŭ.

Najvialikšaj i najstrašniejšaj adnak torpedaj dla Japonii była viestka ab tym, što Kitaj zaklučyŭ z Savietami dahavor ab nienapadańni, u katorym jość byccam tajnyja punkty ab supolnaj pomačy na vypadak vajny. I ŭžo chodziać čutki, što Saviety pamahajuć Kitajcam i byccam navat kamandzier savieckaj armii ŭ Sybiry maršał Bluchier z svaim vojskam znachodzicca dzieści niedaloka Kitaju. Nacyjanalnaj kitajskaj armii pamahaje tak-ža dobra ŭzbrojenaja kamunistyčnaja armija z rabiel. Da hetaha adnak, zdajecca, nia dojdzie, bo faktyčna ŭsie vajny bajacca, a asabliva-ž Anhlija, katoraja byccam nia jość jašče naležna ŭzbrojena.

Na Dalokim Uschodzie, zusim mahčyma, što vajna patryvaje doŭha. Japonii buduć pamahać Niemcy, Italija, a Kitaju kamunisty. Tam moža być štoś padobnaha jak u Hišpanii, tolki z toj roźnicaj, što kali ŭ Hišpanii majuć bolš šansaŭ na pieramohu pačynalniki chatniaj vajny — paŭstancy, to na Dalokim Uschodzie— Kitajcy, na



**Kitajskija studentki z Universytetu ŭ Sanhaju, prachodziać vajskovyja ćvičeńni i vučacca stralać, kab mahčy ŭsiebakova baranić svaju baćkaŭščynu ad varožaha čužynca.**

paŭdzionnych pravincyjaŭ savieckaha Kitaju. Armija heta paddałasia pad kamandu Čan-Kaj-Šeka i prysiahnuła zmahacca z Japonijaj za cełaść Kitaju.

Paśla hetaha, a tak-ža dziela taho, što ŭ Kitaju častkova kryžujucca intaresy Złučanych Štataŭ Paŭnočnaje Ameryki, Anhlii, a navat Francyi i Italii paŭstaje pytańnie, ci z vajny na Dalokim Uschodzie nia vybuchnie novaja suśvietnaja vajna, tymbolš, što Japoncy ciažka ranili ŭ Šanhai anhlijskaha embasadara i byŭ užo zbombardavany amerykanski katorych napali Japoncy i katoryja vajny nie žadajuć.

Vajna na Dalokim Uschodzie moža navat adciahnuć maru novaje suśvietnaje vajny, da jakoje ŭsie haspadarstvy pryhataŭlajucca, na dalejšy čas. Bo hałoŭnyja zabijaki: Niamieččyna i Italija, pamahajučy Japonii, asłabiacca.

Apošnija telehramy z Kitaju paviedamlajuć, što Kitajcy nie paddajucca, a hałoŭnyja bai adbyvajucca dalej kala Šanhaju.

J. N.

# Беларускі Крэдытны Коопэратыў у Вільні

Беларускі Крэдытны Коопэратыў у Вільні паўстаў у 1925 г. Да канца 1926 г. меў ён 900 сяброў і называўся тады Беларускім Коопэратыўным Банкам. Меў ён свае аддзелы ў Пінску і Глыбокім; выдаваў пазыкі і вёў даволі жывую і карысную дзейнасьць. Пасьля аднак прыйшлі часы горшыя і Беларускі Банк сваю дзейнасьць мусіў моцна агранічыць. Калі-б аднак беларускае грамадзянства крыху больш ім зацікавілася, ён йзноў мог-бы належна далей працаваць.

Сёлета 23 траўня, як мы ўжо пісалі, адбыўся ў Вільні гадавы сход сяброў Беларускага Крэдытнага Коопэратыву, на якім былі разгледжаны справаздача і білянс за 1936 г.

Вось-жа прыглядаючыся да білянсу бачылі мы, што Коопэратыў мае ў абароце значную частку (працэнт) уласных капіталаў, якія сягаюць больш 26 працэнтаў, а ўклады становяць толькі 60 працэнтаў усяго абаротнага капіталу. Такі стан рэчаў сьведчыць аб даволі моцным стане Бел. Крэдытнага Коопэратыву. Калі-ж Коопэратыў апошнія гады знаходзіўся ў цяжкім палажэньні, то толькі дзякуючы таму, што ня было даплыву грошаў у яго касу, а гэта паўстала ў сувязі з акцыяй падпісываньня конвэрсыйных умоваў, мараторыюмаў для земляробаў, а галоўным чынам з прычыны нядбаласьці даўжнікоў Коопэратыву, якія не плацілі акуратна нават працэнтаў.

Але пачынаючы ад 1 студня сёлета ўсе крэдытныя коопэратывы (банкі) атрымалі права сьцягваць праз суд даўгі і залеглыя працэнты ад сваіх неакуратных даўжнікоў, якія не падпісалі конвэрсыйных умоваў, і ўправа Бел. Крэдыт. Коопэратыву сёлета, асабліва ўвосені, мае рашуча заняцца гэтым.

Пры Бел. Коопэратыве мае быць так-жа сарганізаваны пасьмертны фонд, мэтаю якога будзе дапамагаць супольнымі сіламі сям'і памёршага сябры.

На ўспомненым сходзе адбыліся выбары новых сяброў Наглядная Рады і ахвяравана 10 зл. на будову памятніка на магіле бел. пісьменьніка А. Лявіцкага.

—о—

Беларускі Крэдытны Коопэратыў зьяўляецца ў нас адзінай крэдытнай установай, ён цяпер пачынае новы пэрыяд свайго існаваньня і можа адыграць вялікую ролю ў нашым жыцьці. Дзеля гэтага аднак трэба, каб беларускае грамадзянства зьвярнула на яго больш увагі, ды каб тыя людзі, якія карысталіся грашмі Коопэратыву, даўгі свае і працэнты сплачывалі акуратна, ня выклікаючы зусім беспатрэбных у бел. жыцьці панукаў праз суды і каморнікаў.

Трэба ўрэшце адцеміць, што пры Беларускім Крэдытным Коопэратыве ёсьць сарганізаваны Стыпэндыяльны Фонд для Беларускіх Вучняў, з якога пры добрым разьвіцьці Коопэратыву можа плысьці выдатная помач незаможнай і здольнай беларускай моладзі.

*Я—к.*

## З украінскага жыцьця

—1.IX сёл. у Луцку закончыўся вялікі палітычны працэс 42 украінцаў, абвінавачаных за прыналежнасьць да нелегальнае Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў (О.У.Н.). Працэс трываў 14 дзён. З агульнага ліку 42, суд засудзіў 34 асобы ад 10 да 1 году вастрогу. Сярод засуджаных найбольш моладзі.

— 30.VIII сёл. у Кіеве застрэліўся П. Любчэнка, старшыня Рады Народных Камісараў Савецкай Украіны. Прад гэтым камуністы закідвалі яму здраду..

## З КРАЮ

### Працуюць і прапіваюць.

*Мёрская вол.,* Браслаўскага пав. Лён... лянок... Нігдзе хіба ня сеюць яго так многа, як каля Дзісны і Мёраў. Сярэдні гаспадар высявае пудоў 8-10, а хто мае зямлі больш, ці заарандуе кавалак на баку, дык высявае па 30—50 і больш пудоў. І ўрадзіў-жа ён сёлета, дык урадзіў. Аднак шмат трэба напрацавацца каля яго, каб давясьці на продаж. І ня маюць супачынку земляробы. Ад сьвята да сьвята, ад раніцы да вечара, праз усю восень мужчыны, жанчыны, а нават і дзеці працуюць каля яго.

Сьціхлі песьні пры працы, няма вечарынак, і ня чуваць, каб каму зламалі скабу, ці „дасталі лёгкія.“ Няма часу.

І толькі ў панядзелкі ў Мёрах сьцены рэстаранаў аж расьпіраюцца ад натоўпаў. Бо тады гаспадары пасілкуюцца, прадаўшы на кірмашы лён. А йшчэ толькі пачатак сэзону... У вёсцы-ж ціха. Часам толькі праведае паліцыянт, панюхае, ці не сьмярдзіць адкуль ад кустоў самагонкай, ды зіркне праз плот на варыва ў агародчыку, ці ня вырасла там табачына. Трэба праўду сказаць, вывела паліцыя самагонку, але п'янства ня вывела. Прапівалі людзі здароўе на забароненай водцы, цяпер-жа прапіваюць здароўе й грошы на дазволенай. — Калі-ж гэта мы паразумнем, калі-ж кінем праклятую гару, якая гора наша паглыбляе? Браты маладыя, не бярэм мы ў гэтым выпадку прыкладу ад старэйшых. Пакажам, што мы маладое пакаленьне можам абыйсьціся без гарэлкі і жыць будзем культурней з сваей кніжкай і газэтай.

*Тутэйшы.*

### Правакацыя ці бязглузьдзе?

„Беларускі Фронт“ у № 10 з 5.IX.37, пад назовам: „Ажыўленьне дзейнасьці „Зьвязу“, надрукаваў зацемку гэткага зьместу:

„Як мы чулі, заложаны ў 1928 г. д-рам Янам Станкевічам „Беларускі Гаспадарскі Зьвяз“ ажыўляе сваю дзейнасьць. Мэты „Зьвязу“ такія самыя, як і зачыненага „Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры“. ...Пажадана было-б, каб „Зьвяз“ стаў урэшце на моцныя ногі і замяніў закрытыя беларускія арганізацыі“...

Што гэта значыць, п. рэдактар „Бел. Фронту“, гэткая вестка? Скажэце, калі ласка. Ці вам ведамыя магчымасьці беларускае працы, ці не? Бо гэткая вашая вестка, ня згодная ў дабавак точна з праўдай, выглядае на даносік, або правакацыю. А мо' гэта проста бязглузьдзе і безгалоўе?...

Гэта першая справа, якую мы маем да „Бел. Фронту“, каторы ўсьцяж нас зачапляе і каторы разглядаючы надрукаваны ў „Шл. Мол.“ артыкул: „З блуднага кола польска-беларускіх адносінаў“, цягне нас за язык, каб мы сказалі, што гэта за „таёмная рука“ перарвала намеры „Kur. Pow.“ увайсьц ў кантакт з Беларусамі, ды чаму „памёр“ час. „Naprzełaj“.

Дзіўныя сапраўды дамаганьні. Няўжо-ж п. рэдактару, магістру і ксяндзу здаецца, што ён, а разам і мы з ім апынуліся ў Раю, ды каля нас лётаюць на крыльлях анёлкі і кажуць: „пяіце, даражэнькія, пяіце“?... Няўжо-ж рэдактар „Бел. Фронту“, дзелячы Беларусаў на групкі і „філаў“, думаючы аб тым, што будзе за сто год, ды апрацоўваючы тэорыю „новай дэмакрацыі“, на гэтулькі адарваўся ад сапраўднага жыцьця, што зусім не арыентуецца ў тым, што нават дзеецца ў Вільні? А можа і гэта бязглузьдзе?.. Ня верыцца аднак, бо дамаганьне выглядае зусім паважна. Дык можа мы пішучы аб польска-беларускіх адносінах наступілі „Бел. Фронту“ на мазоль і ён баючыся канкурэнцыі хоча абавязкава ўсё разведаць.. Калі аб гэта ходзіць, то будзьце спакойныя, грамадзяне, мы вашай дарогай і пратоптанай вамі сьцежкай, а таксама сьцежкамі дасюлешніх „казённых“ беларускіх полёнофілаў, ня будзем хадзіць і ня толькі нікога даганяць, але і пераймаць ад вас ня будзем.

# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Канфіската. 7.IX сёл. Віленскае Гарадз. Староства сканфіскавала новы зборнік вершаў ведамага бел. паэты М. Машары — „З пад стрэх саламяных". Зборнік меў 110 бачын.

Суд над М. Танкам. 9 верасьня сёл. Віленскі Акружны Суд судзіў беларускага паэта Максіма Танка, як аўтара, а грам. Труцьку, як выдаўца сканфіскаванага летась зборніка вершаў „На этапах". Абодвых абвінавачаных Суд апраўдаў. Канфіската аднак зборніка ўтрымана.

Беларускага ліцэю не адчынілі. Ня гледзячы на шматлікія просьбы і дамаганьні беларускага грамадзянства, школьныя польскія ўлады беларускага ліцэю ў Вільні дагэтуль не адчынілі. Школьны-ж год ідзе ужо ўсей парай і беларуская моладзь мусіла шукаць сабе месца ў польскіх ліцэях, а некаторыя, чакаючы беларускага ліцэю, змушаны будуць зусім год змарнаваць, седзячы ў хаце.

Трэба зазначыць, што тыя-ж школьныя ўлады Расейцам дазволілі мець свае ліцэі, а Беларусы, якім пяюць аб братэрстве і якіх лік у Польскім Гаспадарстве ёсьць далёка большы чымся Расейцаў, апынуліся, міма выразнай сваей волі, бяз ніводнага ліцэю...

Наплыў вучняў у Беларускую Гімназію. У адзіную Беларускую Гімназію ў Вільні (Беларуская Філія Дзяржаўнай Польскай Гімназіі ім. Ю. Славацкага) наплыў вучняў з кожным годам павялічваецца. Сёлета ў першую клясу было так многа кандыдатаў, што ў аднэй клясе не маглі зьмясьціцца. Дзеля гэтага кіраўніцтва гімназіі і Бацькаўскі Камітэт прасілі Школьнага Куратара дазволіць адчыніць другую клясу б, аднак дазволу не атрымалі і некалькі дзесяткаў вучняў мусіла вярнуцца назад у вёску. — Ці не пара падумаць аб сарганізаваньні беларускай гімназіі прыватнай?

У беларускім інтэрнаце таксама цесна. З наплывам вучняў у беларускую гімназію, павялічыўся лік кандыдатаў у беларускі інтэрнат, які, нажаль, ня можа ўсіх кандыдатаў памясьціць. Дзеля гэтага трэба зараз-жа арганізаваць новы беларускі інтэрнат.

Зьмены сярод вучыцялёў у Бел. Гімназіі. З пачаткам новага школьнага году ў Бел. Гімназіі ў Вільні наступілі вялікія зьмены сярод вучыцялёў, якія здаецца выйдуць беларусам як-раз не на карысьць. І так зусім з гімназіі звольнены: вучыцялі беларускае мовы — бел. паэт Хведар Ільяшэвіч і грам. А. Лекант-Сакалова, якая працавала ў гэтай гімназіі ад самага пачатку яе існаваньня. Звольнены так-жа вучыцель фізыкі і хіміі П. Шчасны. — Беларускую мову ў гімназіі будзе выкладаць грам. Кавалевіч, вучыцель бел. мовы ў б. віл. поль. вучыцельскіх сэмінарыях.

Госьць з Фінляндыі. 28.VIII сёл. адведаў некаторых беларускіх дзеячоў у Вільні, а між іншым і рэд. „Шляху Моладзі", малады вучоны, фінскі швэд, др. Холіандэр, каторы піша працу аб вызвольных рухах надбалтыцкіх народаў, а ў іх ліку і аб Беларусах. У Вільні шукаў ён патрэбных да свае працы матарыялаў.

Канцэрты М. Забэйды-Суміцкага заграніцай. У канцы м-ца жніўня сёл. слаўны наш мастак песьні Міхал Забэйда-Суміцкі меў два канцэрты ў радыё заграніцай: у Рызе (Латвія) і ў Таліне — сталіцы Эстоніі. Абодва канцэрты прайшлі вельмі ўдала. У Рызе канцэрт адбыўся на адкрытай сцэне перад шматлікімі слухачамі і аднначасна быў перадаваны праз радыё. У Таліне М. Забэйда-Суміцкі сьпеваў, між інш., беларускую песьню „Малады дубочак", якая ўсім вельмі падабалася.

Новы беларускі навуковы часапіс. Даведваемся, што Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні мае прыступіць да выдаваньня беларускага навуковага часапісу, які будзе зьмяшчаць працы сяброў гэтага Таварыства. Часапіс мае называцца: „Запіскі Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні".

Набажэнствы для беларусаў каталікоў у Вільні адбываюцца кожную нядзелю і сьвята а гадзіне 10-тай раніцы ў касьцеле сьв. Мікалая. Пасьля набажэнства заўсёды бывае казаньне пабеларуску.

—о—

У БССР. Савецкія газэты пішуць, што сяляне ў Савецкай Беларусі ня хочуць працаваць у саўгасах і калгасах і самавольна твораць гаспадаркі ўласьніцка-індывідуальныя. З гэтым савецкія ўлады маюць вялікую бяду. І зусім магчыма, што ў сувязі з гэтым пастановай Рады Народных Камісараў СССР у Сав. Беларусі зьліквідавана 138 саўгасаў (савецкіх — гаспадарственных калектываў), і займаныя імі абшары маюць быць пераданы калгасам (сялянскім земляробскім калектывам). Пры тым кожны калгасьнік мае атрымаць невялікі зямельны надзел на ўласнасьць. Цікава, што прадстаўнікі савецкай улады заяўляюць сяньня, што саўгасы ў Беларусі гэта твор... польскае разьведкі і яе прыслужнікаў.

# USIAČYNA

—Polskija hazety: „Zielony Sztandar", „Robotnik" i inšyja pišuć ab pryhožych prajavach salidarnaści sialan. Tak napr. kali ŭ v. Konopnicy, Łukoŭskaha pav., palicyja aryštavała ŭ časie leta troch hramadzian hetaj vioski, abvinavačanych za palityčnyja prastupki, to sialanie z vakolicy, sabraŭšysia supolna ŭ liku 218 asob, zrabili siemjam aryštavanych, usiu palevuju rabotu. Treba skazać, što ŭ našym krai, taksama vielmi časta hetkija-ž prajavy salidarnaści byvajuć. Asabliva-ž byli jany pašyrany paśla likvidacyi Bieł. Sial.-Rab. „Hramady", kali lik aryštavanych biełarusaŭ byŭ najbolšy.

— Adzin z ziemlarobaŭ na Polskim Pamorji vyhadavaŭ pamidory, vaha jakich dachodzie da 1 i navat paŭtara kilohrama. Žonka-ž pahraničnika kala Varochty ŭ Haliččynie znajšła hryb, jaki važyć 2 kilohramy i 23 dekahramy.

—„Słowo" piša, što vyrablany ŭ Polščy ŭ Maścicach štučny navoz (hnoj) u Finlandyi kaštuje dva razy taniej čymsia ŭ svaim krai. Hetak sama dzieicca byccam i z cukram.

— U Paryžy adbyŭsia suśvietny pacyfistyčny kanhres, katory vysunuŭ prapanovu dla vajujučych Hišpanii pahadzicca, nieźmianiajučy hranicaŭ tych abšaraŭ, na jakich chto znachodzicca. Na prapanovu hetuju adnak ani adna, ani druhaja starana nie źviarnuła bolšaje ŭvahi i baraćba dalej adbyvajecca biez pavažniejšych źmienaŭ i ŭ vielmi vostrych formach.

— Narvežskaja sacyjalistyčnaja partyja sioleta śviatkavała 50-ci-hodździe svajho isnavańnia. Maje jana ciapier 142,790 siabroŭ. Vydaje 42 časapisy, u hetym liku 20 štodzieńnikaŭ. Sajuz Narv. Sacyjalistyčnaj Moładzi maje 32,000 siabroŭ u 728 sekcyjach.

— Viedamy saviecki latun, rekordzist skokaŭ z samalotaŭ pry pomačy parašutu, spadachronu, Kajtanaŭ niadaŭna vyskačyŭ z samalotu na vyšyni 11,037 metraŭ i ščaśliva asieŭ na ziamlu. Byŭ heta 427 jahony skok. Lacieŭ jon, vylezšy z samalotu, na ziamlu ŭ praciahu 30 minut i niahledziačy na toje, što byŭ apranuty ŭ ciopłuju vopratku, prymaroziŭ adnu ruku, bo na vyšyni 10,000 metraŭ panuje maroz 46 hradusaŭ. Kajtanaŭ zajaviŭ, što pry dobraj upravie kožny čałaviek moža prystasavacca da takich skokaŭ i što heny apošni jahony skok nia jość najbolšym ani dla jaho, ani dla budučych latunoŭ.

— Ab zahinuŭšym savieckim latunie Levanieŭskim, mima starannych pošukaŭ, dalej niama nijakich čutkaŭ.

— Pavodle najnaviejšych abličeńniaŭ Lihi Narodaŭ, na ziamli žyvie 2 milijardy 100 milijonaŭ ludziej. Anhlijski-ž vučony Penk dakazvaje, što na ŭsiej ziamli moža źmiaścicca i pražyć až 9 milijardaŭ ludziej.

— U Palestynie niespakojna. Araby jznoŭ vostra vystupajuć praciŭ žydoŭ. Miž inšym 1.IX u Jeruzalimie zabita było 10 žydoŭ i 19 — raniena.

— Adnamu brazylijskamu rybaku ŭdałosia złavić rybu 12 metraŭ daŭžyni.

— Niemcy majuć sioleta ŭžo bolš jak paŭtara milijona mechaničnych vazoŭ, h. zn. asabovych i tavarnych samachodaŭ, matocykletaŭ i inš. Maje heta vialikaje značeńnie dla ŭzbrajeńnia.



Sioleta minuła 100 hadoŭ ad taho času, kali pajaviŭsia pieršy ciahnik (lokomotyva). U suviazi z hetym jubilejem vyšej padajom cikavuju źnimku, na jakoj vidać rysunak pieršaha ciahnika i vahonu, katory 100 hod tamu nazad vyjechaŭ z Paryža ŭ St. Germain.

## PRAKTYČNYJA RADY

**Jak vykarystać krapivu.** Krapivu (maładuju) dajuć kačkam, kuraniatam, parasiatam i h. d. Vielmi karysna źbirać krapivu i sušyć na zimovy zapas i tady karmić jeju kury. Krapiva vielmi dobra dzieić na nosnaść kurej. Dziela taho, u kaho mnoha krapivy, niachaj źbiraje jaje i sušyć.

**Jak pazbycca murašak.** Muraški vielmi časta škodziać u aharodzie. Kab ich vyniščyć, treba pieradusim znajści ich miesca—hniazdo. dzie jany źbirajucca, tady ŭziać kipiatku, ci nafty i ablić jaho. Rabić heta najlepš viečaram, kali ŭsie muraški siadziać u hniaździe. Hetak sama možna vyhaniać, niščyć murašak i ŭ chacie.

**Ci možna pić vadu paśla fruktaŭ.** Niašmat pić, jasna, možna. Ale kali źjamo šmat jhrušaŭ, jabłykaŭ, ślivaŭ, višniaŭ ci ahrestu, i paśla napjomsia šmat vady. to heta moža mocna paškodzić na žałudak. Bo kali vypjem bolš vady, dyk frukty pačynajuć pučnieć, rasciahvajuć kiški, asłablajuć ich, a paśla jznoŭ korčacca, i ad hetaha moža być navat zavarot kišak. Frukty treba jeści pamału, dobra pieražoŭvać i nie źjadać za mnoha. Vady paśla ich pić jak najmienš. Pierad jadoju frukty treba dobra vymyć.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Michału Ł—chu: Piśmo Vaša duža nas ciešyć. Prośbu spaŭniajem i toje što možam vyšlem. Vitajem Vas na rodnaj biełaruskaj nivie i zaklikajem da ŭśviedamlenčaj pracy siarod svaich kalehaŭ.

B. H.-Bab.: Prośbu spaŭniajem.

Adamonisu J.: Znojdzienyja Vami manety muzealnaje vartaści nie pradstaŭlajuć.

M. Вольнаму: Матарыялы з 6.IX сёл. атрымалі, шчыра дзякуем, будзем ахвотна выкарыстываць. Ня гневайцеся толькі, што з прычын цэнзуральных будзем іх „выгладжваць". Карэспандэнцыі з 12.5.37 дасюль не атрымалі. Відаць, яна дзесь загінула. Загінуў мусіць дзесь і высланы Вам № 6 „Шл. Мол.", у якім між іншым быў надрукаваны Ваш твор „Усход", нумар гэны высылаем Вам паўторна. Вышлем таксама і кніжкі. Вельмі цешымся, што беларуская моладзь у Латвіі далей працуе на роднай ніве, і што „Шлях Мол." ёй падабаецца. Усім засылаем найлепшыя пажаданьні і братняе прывітаньне!

А. Ж.: „Калосьсе" і календары выслалі 8.IX.37. Просім пісаць часьцей і прысылаць свае творы да друку.

## Krychu śmiechu.

### „Cud".

U Amerycy adzin pastor havaryŭ kazańnie ab cudach. Paśla hetaha źjaviŭsia da jaho adzin z parachvijanaŭ z prośbaj vyjaśnić jamu słova „cud". Pastor jznoŭ havaryŭ doŭha, a pabačyŭšy, što jahony słuchač nia nadta dobra jaho razumieje,—padumaŭ, a paśla valnuŭ z całaj siły jamu pa tvary i pytaje:

— Nu, što, pačuŭ moj udar?

—Dobraje pytańnie... Peŭna-ž pačuŭ—trymajučysia za tvar adkazaŭ parachvijanin.

—Voś-ža vidziš, daraženki pryjacielu... kab ty nie pačuŭ, to byŭ-by cud.



*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК